Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 14 (39) | Вільня, 16-га чэрвеня 1934 г. | Год 2-гі.

## Забойства мін. унутраных спраў Б. Перацкага.

Учора 15. VI. г. г. а гадз. 15 мін. у Варшаве на вул. Фоксаль перад домам № 3, у якім месьціцца Таварыскі Клюб, даканана забойства мін. Б. Перацкага, якое мела наступны прабег.

Міністар Браніслаў Перацкі паехаў, як заўсёды, аўтамабілям з Міністэрства Унутраных Спраў у Таварыскі Клюб, дзе стала абедаў. У тэй хвіліне, калі міністар Б. Перацкі выходзіў перад Клюбам з аўтамабіля, падыйшоў да яго з заду нейкі малады чалавек і выстраліў у упор тры разы з рэвольвэра.

Пакліканая на месца праступка карэта скорай помачы адвезла цяжка раненага ў галаву міністра ў Уяздоўскі шпіталь, дзе дактары прыступілі зараз-жа да трэпанацыі чашкі. Ня гледзячы на ўсе высілкі, мін. Б. Перацкі а гадз. 17-ай мін. 20 памёр.

Забойца, як заўважана, нізкага росту, быў апрануты ў спартовы шэры гарнітур і шэрую шапку-цыклістоўку.

## Беларускі ці хадэцкі Нацыянальны Камітэт?

Наша радзімая хадэцыя, сабраўшыся на Завальнай вуліцы № 1 у Вільні 26 траўня сёлетняга году, абнавіла **свой** „Беларускі Нацыянальны (віленскі) Камітэт“ і прыняла свае чарговыя, традыцыйна вось ужо некалькі гадоў паўтараныя рэзалюцыі, модэлюючы іх кожны раз паводле духу часу.

Ня будзем спыняцца над камітэцкімі (чытай **хадэцкімі**) рэзалюцыямі, каторыя ў шмат якіх месцах сваіх могуць быць прыняты кожным беларусам, як пажаданьні ці дамаганьні палепшаньня незайздроснага лёсу беларускага народу на ўсім абшары яго расьсяленьня.

Віленскі хадэцкі камітэт цікавіць нас, як такі. Цікавіць яго ўнутраны зьмест, яго апананьне ў неналежную яму тогу выключнага абаронцы беларускае справы ды прыбіраньне ім характару, нікім Камітэту гэтаму не наданае, рэпрэзэнтацыі ўсяго шматмільённага беларускага народу.

Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, як палітычная партыя, ведама што можа закройваць беларускую справу на плянэтарны нават маштаб. Іншая рэч—арганізацыя статутовая, якою зьяўляецца фармальна Беларускі Нацыянальны Камітэт. Ён толькі тады мог-бы звацца рэпрэзэнтацыяй жывых арганізованых сіл беларускага народу ў Польшчы, калі-б усе гэтыя арганізованыя сілы нашыя былі ў гэтым Камітэце прадстаўлены, паводле нормаў камітэцкага статуту.

Што гэта сягоньня ня так — гаварыць ня прыходзіцца. Але шмат хто з беларускіх чытачоў хадэцкае прэсы, будучы паінфармованым аднабока і тэндэнцыйна гэткаю, напрыклад, „Беларускаю Крыніцаю“, сьвядома абдурваецца хадэкамі дзеля іх партыйных мэтаў.

Апошні (24-ты) нумар „Беларускае Крыніцы“ ў сваім перадавым артыкуле „Пасьля абнаўленьня Беларускага Нац. Камітэту“ стараецца з усяе сілы спрытна скамбінаваць сваю хлусьлівую інфармацыю, каб далей вадзіць за нос малаасьведамленых провінцыяльных чытачоў, каб пад шыльдам Нац. Камітэту пашыраць свае чыста партыйна-хадэцкія ўплывы на беларускія масы.

„Беларуская Крыніца“ піша пра свой Камітэт, нібыто „ён зьяўляецца свайго роду беларускім парлямэнтам, сoймам, дзе ўсё беларускае жывое ды ідэйнае мае свой голас“.

Ці-ж гэтулькі ўсяго на сьвеце ёсьць сонца, што месьціцца ў хадэцка-камітэцкім ваконцы? Ці-ж запраўды ўсё жывое ды ідэйнае, што толькі ёсьць у Заходняй Беларусі, **мае** свой голас у Нац. Камітэце?

Пакідаем гэтыя пытаньні на развагу нашым чытачом.

Калі хто з іх чытаў ужо абгавораны намі нумар „Беларускае Крыніцы“, дык знайдзе там і гэткі букет:

„У Бел. Нац. К-т такім чынам увaходзяць беларусы народнікі і соцыялісты, дэмакраты і корпаралісты, праваслаўныя і каталікі, старэйшыя і студэнты, культурнікі і палітыкі, беспартыйныя грамадзкія дзеячы і эканамісты“.

Здавалася-б, што там, на Завальнай вуліцы, запраўдны каўчэг нейкага сучаснага беларускага Ноя. Каўчэг, праўда, такі, што бяз ніякага ветру прэ проста да літоўскага берагу. Прэ нібыто таму, што навокал бачыць толькі патоп над усім беларускім, што яшчэ ніколі гінуць ня зьбіралася, жывое і будзе жыць, бо сьмерці не жадае.

А вось як выглядае праўда аб Беларускім Нацыянальным Камітэце.

Паўстаў ён у 1919 годзе. (Хоць тут хадэкі пішуць праўду). Ніколі аднак ня злучаў у сабе абсолютна **усяго жывога беларускага,** а толькі большасьць і большасьць **зусім пераважную** беларускага грамадзянства, быўшага ў дадзены час арганізованым. Бо спачатку было так, што ў Нацыянальны Камітэт у Вільні ўваходзілі толькі тыя партыі і арганізацыі, якія сваё жаданьне ўвайсьці ў яго Камітэту выказалі. Паводле статуту і традыцыі, аб якой успамінаюць хадэкі, ніхто гэткаму ўваходу тае ці іншае беларускае арганізацыі ў Віленскі Нацыянальны Камітэт адмовіць ня мог.

Сягоньня-ж хадэкі адмаўляюць выразна ў гэтым праве ўсім, апрача арганізацыяў паіхнаму **незалежных.**

У незалежнасьць хадэцкае партыі або яе прэсы паверыць можа хіба толькі зусім палітычна-цёмны чалавек. Ужо даўно ня верыць у гэта наша эміграцыя, якая з прэсы беларускай можа толькі з'орыентавацца, што дзеецца ў Вільні, бо бачыць уласнымі вачыма беларускага жыцьця на роднай зямельцы ня мае магчымасьці.

Як усім ведама, у 1926/7 гг. хадэкі, дзеля сваіх выбарчых камбінацыяў у Польскі Парлямэнт, выклікалі раскол у Беларускім Нацыянальным Камітэце; праз нейкі час так і істнавалі **два** нацыянальныя Камітэты: № 1 і № 2.

Адзін з гэтых №№ зыйшоў сягоньня з палітычнае сцэны, а другі — хадэцкі — № перабіўся ў шыльд для хадэцкага партыйнага цэнтру.

Але-ж гэта вельмі празрыстая вуаль. І вось хадэкі пачалі шукаць розных новых формаў для сваіх партыйных прыбудовак ды **хрысьціць** сваіх людзей у розныя грамадзкія ці нават палітычныя кірункі.

Гэтак паўстае коопэратыўная беларуская часопісь „Самапомач“ (праўдзівей было-б: помач яе рэдактару!) без беларускае коопэрацыі, паўстаюць нацыянальнэ-соцыялісты бяз ніякага соцыялізму.

Больш гэтага: чыста-каталіцкая партыя—хадэцыя наша ставіць на чаргу дня справы праваслаўя і ўтварае пры сваім камітэце Беларускую Праваслаўную Камісію, прымае ў Бел. Нац. Камітэт „Беларускае Праваслаўна-Дэмакратычнае Аб'яднаньне“, якое ня ведама дакладна каго аб'ядноўвае.

Ф. Акінчыц, калі захоча, можа трапіць у хадэцкі Нацыянальны Камітэт хоць-бы нават і праз двое дзьвярэй: як галава Беларускага Дабрадзейнага Таварыства ў Стоўпцах і як нац.-соцыяліст, у пары з Уладыславам Казлоўскім, рэдактарам двушрыфтовае худасочнае газэткі „Новы Шлях“.

Гэта нічога, што Акінчыц быў **„польскі ўгадовец“,** паводле хадэцкае номэнклятуры, якіх „Беларуская Крыніца“ абяцае ў Бел. Нац. Камітэт ня прымаць, абы толькі спрытна ўдалася густая вуалька для хадэцкіх партыйных мэтаў.

Вуалька сплецена, наколькі гэта для хадэкаў было магчыма і далей ужо засталося толькі свой партыйны Белар. Нац. Камітэт **абнавіць.**

Ёсьць гэткія стварэньні зямныя, што кожны год аднаўляюць на вясну сваю скуру.

Але ў тое, каб аднавілася разам з скураю і сэрца ў гэтых стварэньняў, наўрад ці хто паверыць.

Ніводзін разумны селянін беларускі таксама не паверыць, што ў Вільні істнуе беларускі Нацыянальны Камітэт такім, як яго ў сваёй газэце хадэкі малююць. Бо фактычна існуе Камітэт, але ён наскрозь хадэцкі з вельмі маленькаю і дзеля гэтага зусім нязначною рошчынаю слабых і часам нават сэзонных кірункаў беларускай думкі. Гэта ўсё ў хадэцкіх партыйных асьпірацыях мае невялікую вагу і нікога надоўга абдурыць ня можа.

Беларускі Нацыянальны Камітэт ці які іншы агульна-нацыянальны цэнтр у Вільні вельмі пажаданы, але і будова яго павінна быць паважнаю, а ня гэткаю партацкаю, як у нашых хадэкаў.

# Няўдалая спроба дзяржаўнага перавароту у Літве.

З 6-га на 7-е гэтага чэрвеня ўначы групаю маладых афіцэраў у Коўне была зроблена спроба давясьці да ўлады былога прэм'ер — міністра і дыктатара Літвы Вальдэмараса, які знаходзіўся дасюль у няласцы літоўскага ўраду, як прагнаны ад улады ў кастрычніку 1929 году і адданы пад суд.

Ковенскі карэспэндэнт варшаўскае „Gazety Polskiej", паміж іншым, гэтак паведамляе аб выступленьні Вальдэмараса.

Раніцай 7 чэрвеня, калі жыхары Коўна выйшлі на места, кіруючыся да сваіх штодзенных заняткаў, заскочыла іх даволі неспадзяванае відовішча, але ўжо раз тут бачанае: усё места, асабліва ўсе ўрадовыя будынкі, былі абсаджаныя аддзеламі пяхоты і танкаў, а па вуліцах шыбка прабягалі вайсковыя самаходы з афіцэрамі-лятунамі. „Пачынаецца так сама, як 17 студня 1926 году, — казаў нехта, абдараны добраю памяцьцю"... „Так, так"... — „Але, — дадаваў трэці, — п. Вальдэмарас набыў давер афіцэраў і пры іхняй падмозе адплачвае п. Смэтоне за няслаўнае прагнаньне яго ад улады у кастрычніку 1929 г."

Вайсковая окупацыя літоўскае сталіцы цягнулася ўвесь дзень. А 7-ай гадзіне ўвечары, ані разу ня ўжыўшы зброі, аддзелы ў поўным парадку вярнуліся ў казармы, а трыманьне парадку ізноў прыняла на сябе паліцыя. Места выглядала нармальна, нязвычайна ажывіліся вуліцы, бо публіка высыпала на іх па навіны.

Абсадзіўшы сільна ўсю сталіцу, таксама атачыўшы сільным кардонам палац прэзыдэнта Смэтоны, ініцыятары згавору раненька даставілі ў Коўна Вальдэмараса з Зарасаў, куды ў сваім часе ўрад Тубэліса выслаў яго на прымусовае там прабываньне. У Коўне Вальдэмарас схаваўся пад апеку лятуноў. Адбыў нараду з назначаным ім у 1927 годзе начальнікам штабу гэнэралам Кубэлюнасам, які пайшоў да прэзыдэнта Смэтоны і заявіў, што яму вельмі няпрыемна данясьці аб буньце ў арміі і што ён не знаходзіць іншага выхаду для ўціхаміраньня, як толькі назначэньне Вальдэмараса старшынёю рады міністраў, заместа Тубэліса і з прызнаньнем за ўрадам вельмі шырокіх поўнамоцтваў. Дадаў, што ў арміі, асабліва сярод малодшых афіцэраў, пануе вялікае незадаволеньне з курсу загранічнае палітыкі цяперашняга ўраду Тубэліса, які давёў да поўнае ізоляцыі Літвы.

Прэзыдэнт Смэтона рашуча асудзіў павядзеньне гэн. Кубэлюнаса і на прапазыцыю яго адказаў:

„Вальдэмарас ёсьць палітычным авантурнікам і чужацкім агентам. Гэта ён якраз можа загнаць Літву ў найбольшыя труднасьці і клопаты. . Я не хачу з ім наагул, вясьці перагавораў. А ад вас, пане гэнэрале, вымагаю незабаўна выдаць Вальдэмараса ў рукі паліцыі, а таксама прыказаць войску вярнуцца ў казармы, каб вернуты быў нармальны парадак".

Размова гэтая адбылася каля 9-тай гадзіны раніцы. Адыходзячы гэн. Кубэлюнас заявіў прэзыдэнту, што ён з цяжкім сэрцам выпаўніў толькі ўзложаную на яго місію, што армія будзе чакаць на яго аканчальнае рашэньне да палудня. Калі замахоўцы даведаліся аб цьвёрдай пазыцыі прэзыдэнта, дык сярод іх упаў настрой. Нэрвовасьць і нерашучасьць іх яшчэ больш павялічылася, калі а гадз. 12-ай прайшоў срок пастаўленага прэзыдэнту „ультыматуму". У рэзультаце каля 2-ой гадзіны ўдзень лятуны пастанавілі перавязьці Вальдэмараса ў будынак Гэнэральнага Штабу, дзе Кубэлюнас проста выдаў яго паліцыі.

Гэн. Кубэлюнас зараз-жа атрымаў адстаўку. Утворана была спэцыяльная сьледчая камісія на чале з гэнэралам Тамашаўскасам. Арыштована 20 найбольш скампраміткованых афіцэраў, арыштованы і сам Вальдэмарас.

У сувязі з няўдалаю спробаю перавароту, у складзе літоўскага ўраду адбыліся нязначныя зьмены.

Паводле вестак з Коўна, Вальдэмарас падаў пракурору жалабу, у якой ён пратэстуе проці арышту заяўляючы, што ў замаху удзелу ня браў і што гэта заўсёды гатоў даказаць на судзе.

# Візыта мін. Гэбельса.

**Варшава.** 13. чэрвеня г. г. прыбыў у Варшаву аэрапляням „Маршалка Гіндэнбурга" мін. прапаганды Нямецкае Рэспублікі д-р Язэп Гэбельс у таварыстве прадстаўнікоў міністэрства прапаганды, 6 галоўных рэдактараў нямецкіх часопісяў і кіраўніка аддзелу ПАТ у Бэрліне. Гасьцей прывіталі: мін. унутраных спраў Перацкі, дыр. габінэту мін. замежных спраў Дэмбіцкі, ваявода Ярошэвіч, начальнік прэсавага аддзелу ў МЗС Пжэсмыцкі, праф. варшаўскага ўнівэрсытэту, старшыня інтэлектуальнай уніі Т. Зеліньскі, сэкрэтар гэтай-жа уніі Гвітры, сябры нямецкага пасольства з паслом фон Мольткем і генэр. Шындлерэм. Апрача таго былі прысутныя прадстаўнікі польскае прэсы і карэспандэнты загранічных часопісяў.

Пасьля прывітаньня мін. Гэбельс разам з нямецкім паслом фон Мольтке паехаў да прыгатаваных для яго апартамэнтаў.

**Варшава.** У сераду, 13-га чэрвеня г. г. ўвечары мін. д-р Гэбельс прачытаў у перапоўненай салі грамадзкай рэсурсы ў Варшаве лекцыю аб ідэолёгі сучаснай Нямеччыны.

Мін. д-р Гэбельс у сваёй лекцыі п. з.: „Нарадова-соцыялістычныя Немцы, як дзейнік эўрапейскага міру" між іншым падкрэсьліў: Нямеччына ўвайшла сяньня з увагі на форму і зьмест у такі цесны саюз з нарадова-соцыялістычнай ідэяй, што існаваньне Нямеччыны без нарадовага соцыялізму выдаецца цяпер амаль што немагчымым. Нарадовы соцыялізм ёсьць зьявішчам тыпова нямецкім і ня думае аб ідэовай экспансіі. Можна прытасаваць словы Мусоліні, каторы сказаў раз аб фашызьме: гэта тавар не на экспорт!

Нарадова соцыялістычная рэвалюцыя, як кожная іншая, імкнецца да грунтоўнага ператварэньня цэласьці нямецкае культуры і прадукцыі. Гэтаму наказу павінен падпарадкавацца ня толькі чалавек вуліцы, але і інтэлігенцыя, ня знача гэта адвак, каб нарадовы соцыялізм меў накідаць інтэлігэнцыі партыйны каўпак. Ніводз'н закід ня можа нас так глыбака закрануць, як абвінавачаньне, што нарадова-соцыялістычны рух ёсьць барбарствам духа і што ў канцы павінен давесьці да зьнішчэньня культуральнага жыцьця нямецкага народу.

Мы вызвалілі сілы нашага народу, выкідаючы за дужкі грамадзянства прадстаўнікоў марксізму і камунізму. (Праведзена было гэта пры помачы вельмі гуманітарных сродкаў).

Далей міністар парушыў справы жыдоўскія. Трэба прыпомніць, што жыды, перад нарадова-соцыялістычнай уладай, мелі паважны ўплыў на духовае жыцьцё Нямеччыны і ў значнай часцы дыспанавалі рухомымі і нярухомымі капіталамі краю, а так-жа мелі ў сваіх руках абсолютны ўплыў на прэсу, літэратуру, тэатр і фільм. У вялікіх гарадох, як напр. у Бэрліне, лекары і праўнікі ў 74-75 працэнтаў былі жыдамі. Калі ўзяць пад увагу, што жыдоў у Нямеччыне ёсьць 0,9% усяго насельніцтва, то абарона проціў гэтага стану рэчы была неабходнай. Усякія казкі эмігрантаў аб зьдзеках і прасьледаваньнях жыдоў хіба ня прымуцца за праўду.

Паразуменьне з Польшчай, кажа мін., сьведчыць аб тым, што Немцы імкнуцца да згоднага жыцьця народаў на даўжэйшую мэту. Нямецкі народ, маючы пачуцьцё сваей годнасьці, будзе супрацоўнічаць толькі з тымі дзяржавамі, каторыя ўшануюць яго гонар і роўнасьць праў. Немцы не жадаюць за шмат, хочаць толькі зразуменьня і пашаны; немцы ня перастаюць выцягваць рукі і чакаюць, калі спаткае яе ўзаемны пажым.

# Гаспадарчы аддзел.

**Пчаляр у часе мёдабраньня.**

Больш меньш у палове чэрвеня пачынаецца галоўнае мёдабраньне. Хто адпаведна прыгатаваў свае пчолы да яго можа спадзявацца, што пчолы дадуць яму мёду. Перад галоўным мёдабраньнем гнёзды ў вульлёх павінны быць дапоўнены рамкамі, а раі павінны дайсьці да найбольшай сілы. Калі маем раі сільныя, дык трэба, каб у вульлёх было месца на складаньне мёду. Каб даць пчолам месца на мёд застасоўваем аканчальнае пашырэньне гнёздаў; у вульлёх з падстаўкамі даем надстаўкі, а ў вульлёх без падставак дадаем рамкі з гатовай вашчынай ці вузой. Дзеля таго, што ў надстаўцы пчолы цягнуць вашчыну не надта ахвотна, трэба старацца, каб даваць рамкі з гатовай вашчынай, а як найлепей з вузой. Вашчыны трутнёвай таксама ў надстаўку лепш не даваць, каб не зманіць у надстаўку маткі, якая, не маючы месца на складаньне прутнёвых яечак у гняздзе, ахвотна пойдзе ў надстаўку.

Каб прыпадкам не застудзіць чарвы (калі пагода не надта цёплая), даючы падстаўку, можна ўсіх рамак адразу не даваць, а ўстаў-

# Настулька.

*(Расказ)*

I.

Вёска Буркаўка стаяла на сваім месцы, як і да вайны. Толькі жыхары яе цяпер моцна адрозьніваліся ад тых, якія яе засялялі перад вялікаю вайною. Тады ў ёй моцна ўжо заўважыліся ўплывы расейшчыны. Маскалізм прыходзіў разам з тымі сынамі гэтае глухое вёскі, якія, трапіўшы ў салдаты, — ці, як любілі старыя людзі казаць, „у маскалі", — вярталіся дамоў, гаворачы, як тут ужо прынята было думаць, „пасалдацку".

Да таго яшчэ чужацкую мову прынасілі сюды і тыя людзі вёскі, якія служылі пры цару на розных урадавых службах і мімаволі пакрысе руселі. Перад самаю вялікаю вайною наяжджала сюды „ў отпуск" выйшаўшае „ў сьвет" настаўніцтва лікам больш за дзесятак, і ўсё гэта разам прывучала вясковую моладзь цягнуцца сьледам за сваімі „вучонымі" землякамі — старацца гаварыць іхнаю, як здавалася цёмным мужыцкім галовам, *панскаю* моваю.

Вайна, перакуліўшая ўсё дагары нагамі, нарабіла і тут свае работы: яна павыганяла гаротных вясковых жыхароў Беларусі ў Маскоўшчыну, а нават і Сыбір ды Сярэднюю Азію. Там на далёкай чужыне старыя буркаўцы блізка што ўсе зложылі свае сівыя галовы ад бяды і голаду, дарослыя пасьпелі сьсівець, а малыя вырасьлі і вярнуліся на свае родныя попелішчы зусім ужо „русакамі".

Так ужо ў Буркаўцы завялося, што яшчэ да вялікага выгнаньня кожная вясковая дзяўчына з бацькамі, з усімі хатнімі і суседзямі ў буднія дні гаварыла прадзедаўскаю моваю; роднымі словамі яна лашчыла брыклівую кароўку, доячы яе, з роднымі слоўцамі заганяла ў хлявы сьвіньні й авечкі. А вось у сьвяты ды асабліва ў кірмашы, на якіх моладзь часта заводзіла першае знаёмства паміж сабою, ў моду ўвайшло гаварыць хоць і надта благою, але ўсё-ж такі расейшчынаю. Памёрла ўжо і родная песьня ў гэтай вёсачцы, што налічвала ледзь 12 хатаў, і часта замест сваіх беларускіх сьпеваў чуваць было на зборках моладзі:

*„Из-за острова на стрежень*
*На простор речной волны"...*

Сьпявалася ўсё гэта бяз лішняга клопату разумець, што за істота такая гэты самы *стрежень* і чыя гэта песьня наагул? Вясельныя беларускія песьні замянялі пакрысе маскоўскія *частушкі* і папулярнаю стала на вясельлях нават і гэткая пастарэўшая песьня, як:

*„Чудный месяц плывёт над рекою«...*

Толькі вельмі старыя бабулкі, выпіўшы на гэтай вясковай урачыстасьці лішнюю каплю з чаркі, прыпаміналі мінулае, завёўшы на свой родны матыў:

„Едзьце, сваты, дадому, дадому,
Паелі коні салому"...

Але тлеюць недзе ў чужой зямлі косьці большасьці старэнькіх бабулек, уцёкшых ад вайны. І калі-б душа каторае з іх прыляцела глянуць на родныя палеткі, ізноў зарунеўшыя пасьля вялікае сусьветнае калатні, калі-б пачула гутарку буркаўскіх дзявок і маладзіцаў, дык напэўна астаўпела-б ад зьдзіўленьня і зжахнулася-б, сказаўшы з агідаю:

— „А ліханька-ж! Што дзеецца цяпер на сьвеце? Мусі ўжо і бабам, так як мужчынам даўней, у маскалёх даводзіцца служыць! Бо ўсе-ж цяпер тутака гавораць пасалдацку!"

— —

— Гляньце! што-ж гэта? мусі сваты, — выгукнула цётка Хрысьця, пазіраючы ў вакно з вялікае сьветлае хаты.

У гэты час на падворак у бок гумна і хлявоў заяжджала простым сялянскім возам, цягненым добрым чорнае масьці канём, двох мужчын: адзін, сядзеўшы з левага боку, быў крыху старэйшы, абросшы густою бародкаю і ўсім выглядам сваім даваў зразумець, што ён ужо жанаты.

Але, перш за ўсё, пазнаёмімся з тою прычынаю, якая выклікала прыезд у Буркаўку гэтых гасьцей.

Прычынаю была дзяўчына; але ня гэткая дзяўчына, як усе іншыя ў ваколіцы. Яна была крыху йнакшая, таму што з Буркаўкай вязала яе толькі паходжаньне яе бацькі, які ўсе свае маладыя гады праслужыў па розных канцэлярыях усялякіх царскіх урадаў у той час, калі Буркаўка разам з іншымі мясцовасьцямі Беларусі належала да колішняе расейскае імпэрыі. Дзяўчыну гэтую, як і ўсю яе родную сям'ю, лёс прыгнаў на родныя загоны, бо гэтак пакруціў віхар вялікіх гістарычных падзеяў. Радзілася яна ня тут і вырасла ня тут, пасьпеўшы скончыць нават гімназію ў адным з вялікім местаў на Украіне. Дзіцячыя гады Настулькі (гэткае было імя дзяўчыны) праляцелі ў месьце, да ўсіх вясковых звычаяў і работ ёй прыходзілася прывыкаць і прывучацца, а, ня будучы ад прыроды гордаю, яна даволі хутка, бо ўсяго за якіх-небудзь чатыры гады, патрапіла з усім буркаўскім жыцьцём асвоіцца. Тым лягчэй

ляць паступова па некалькі штук. У апошнім выпадку гняздо адкрываем толькі ў той частцы, дзе прыпадаюць надстаўныя рамкі, а да надстаўных рамак дастаўляем адгародную дошчачку.

Пры даваньні надстаўных магазынаў адна асоба хутка здымае палатно ці дошчачкі з рамак, пускае некалькі клубоў дыму (каб сагнаць пчолаў у глыб гнязда), а другая асоба хутка ставіць надстаўку. Трэба глядзець, каб надстаўка шчыльна прыставала. Калі ваколіца мёдадайная, пчолы ў працягу некалькі дзён могуць заліць цэлую надстаўку мёдам. Пчолы найхутчэй заліваюць рамкі, якія знаходзяцца над чарвой, дык добра перастаўляць іх на месца крайніх, якія яшчэ не заліты мёдам.

Трэба пільнаваць, каб мёдныя магазыны даць у самы пачатак галоўнага мёдабраньня, дык тады скарыстаем найбольш. Цэлае уменьне палегае на тым, каб пчаляр мог акрэсьліць пачатак галоўнага мёдабраньня ў сваёй ваколіцы, бо на гэта правіла няма, а ў кожнай ваколіцы пачатак і канец мёдабраньня розныя. У часе мёдабраньня трэба глядзець, каб перад вульлямі, асабліва перад лёткамі ня было высокай травы, бо пчолы змучаныя і з цяжарам часта падаюць перад вульлём, не папаўшы на падлётную дошку і ў высокай траве, асабліва, калі яна мокрая, гінуць.

Траву перад лёткамі трэба коратка касіць, або яшчэ лепш, каб замест травы месца перад лёткамі было высыпана пясочкам. Калі пчолы будуць зьбіраць шмат мёду, і будзе надзея, што мёдабраньне прадоўжыцца, трэба прыгатаўляць яшчэ падставак і рамак з вашчынай да вульлёў не надстаўных. Другую надстаўку ставіць пад першую, тады пчолы, бачучы пустату ў сярэдзіне, шпарчэй будуць старацца яе запоўніць.

## Дагляд за бульбаю.

На пачатку лета, покуль яшчэ не настала пара касьбы, селянін павінен пастарацца дагледзець свае гаспадарчыя расьліны ў полі. Дагляд гаспадарчых расьлінаў зводзіцца галоўным чынам да наступнага: 1)нішчэньня ліхазельля, 2) міжрадовай апрацоўцы глебы, дзякуючы якой адначасна ўспульхняецца зямля і нішчыцца ліхазельля і 3) барацьбы з рознымі хваробамі і шкоднікамі. У даным артыкуле мы будзем гаварыць выключна аб дагляданьні за бульбай.

Звычайна, апрацоўка глебы пад бульбу, на пачатку лета зводзіцца да асыпаньня бульбы. Да асыпаньня яе трэба прыступіць тады, калі сьцябло бульбы ўжо дасягне 15-18 цм. (каля 3-4 вяршкоў). Асыпку бульбы ў нас робяць спэцыяльнай сошкай, ці плужком і завецца гэтая чыннасьць абганяньнем бульбы. Абганяньне бульбы дае наступныя вынікі: 1) нішчыцца ліхазельле, 2) успульхняецца глеба між радкамі і 3) ніжнія часткі надземных сьцеблаў бульбы прысыпаюцца зямлёю, дзеля чаго ў гэтых месцах сьцеблы выпушчаюць новыя падземныя бочныя гоны, якія даюць бульбіны. Аднак, пры гэтым мы ня мусім забывацца аб тым, што, дзякуючы абганяньню, зямля траціць шмат вільгаці. З гэтае прычыны на глебах сухіх карысней бульбу садзіць глыбака і абганяць яе мяльчэй і радзей, а калі пануе вялікая суша, то можна яе зусім не абганяць. Зусім што іншае пры глебах цяжкіх і вільготных. У апошнім выпадку бульбу трэба садзіць мелка, а абганяць глыбака і часта, асабліва, калі мокры год. Абганяньне бульбы пры нармальных умовах павінна быць праведзена 2-3 разы за лета. Пасьля першага абганяньня наступае другое, звычайна, за 2-3 тыдні. Апошняе абганяньне лепей замяніць ручным абсыпаньнем; пры гэтым куст бульбы абсыпаецца высака з усіх бакоў, а асобныя сьцеблы адгінаюцца адзін ад другога на вонак. Абганяць бульбу можна да таго часу, пакуль яна не зацьвіце; з зацьвіценьнем бульбы варушыць глебу на бульбяном полі зусім няможна. Пры гэтым зазначаем, што абрываньне бульбянога цьвету значна павялічвае ўраджай бульбы. Нашым гаспадаром на апошняе трэба зьвярнуць увагу, тым болей, што абрываньне цьвету—работа ня цяжкая і можа быць выканана дзяцьмі.

Апрача вышэй успомненых заходаў, дагляд за бульбай, як мы ўжо казалі раней, палягае яшчэ на барацьбе з рознымі бульбянымі хваробамі. Хваробы гэтыя ў нас значна пашыраны, а дзеля таго найгалоўнейшыя з іх мы тут і пералічым.

1) *Бульбяная зараза.* Бульбяная зараза ёсьць найболей пашыранай хваробай бульбы. Зьяўляецца яна ў ліпні месяцы ў пастаці гнедых з белым беражком плямаў на лісьцях бульбы; белы налёт прадстаўляе сабою споры грыбка бульбяное заразы. Споры гэтыя пры дапамозе ветру і дажджу разносяцца і дастаюцца ў глебу, дзе натрапляюць на бульбіны, прарастаюць і выклікаюць загніваньне астатніх. Барацца з гэтай хваробай трэба наступным спосабамі: 1) ня сеяць бульбы ў вільготных месцах, 2) не садзіць часта па сабе бульбу на тым самым месцы (не раней 3 гадоў), 3) ня ўжываць пад бульбу сьвежага гною, 4) высака асыпаць бульбу і 5) ужываць для пасадкі цалком здаровую бульбу.

Апрача таго, для барацьбы з гэтай хваробаю можна ўжыць т. зв. бардоскай жыжкі, якою скрапляецца заражоны бульбянік. Скрапляць яго трэба два разы: першы раз, калі бульба адрасьце на п'ядзь ад зямлі, а другі, — перад зьяўленьнем цьвету. Бардоская жыжка прыгатаўляецца наступным спосабам: у дзеравяную пасуду наліваецца 50 літраў вады і ў гэтай вадзе распушчаецца 2 кілёграмы сярчану медзі, пасьля ў другую пасуду наліваецца таксама 50 літраў вады і разводзіцца ў ёй 2 кілёграмы сухое палёнае вапны; калі ўсё гэта зроблена, абедзьве цечы трэба зьмяшаць.

Далей, да грыбковых хваробаў бульбы належаць яшчэ паршы і рак Паршы выступаюць у пастаці коркавых мазалёў на бульбінах. Хвароба гэта вялікае шкоды ня прыносіць. Барацца з ёю трэба ўжываньнем здаровага насеннага матэрыялу, а яшчэ лепей — сартоў адпорных на гэтую хваробу. Рак бульбяны вельмі небясьпечная заразьлівая хвароба. Зьяўляецца яна ў пастаці нарасьляў на бульбінах, якія потым гніюць і сьлізнуць. Барацьба з ракам вельмі трудная і павінна праводзіцца арганізавана. Аб зьяўленьні гэтае хваробы трэба паведаміць гмінны ўрад.

Апрача хваробаў бульбы, якія выклікаюць рознага роду грыбкі, ёсьць яшчэ хваробы, да паўстаньня якіх прычыняюцца спэцыяльныя бактэрыі. Завуцца гэтыя хваробы агулам бактэрыёзамі. Бактэрыёзаў ёсьць шмат, але найболей прыносяць шкоды наступныя: 1) т. зв. чорная ножка, 2) персьцянёвая бактэрыёза і 3) мокрая бульбяная гніль. Пры хваробе, званай чорная ножка, сьцябло бульбы спачатку адумірае пры зямлі, а потым і цалком гіне. Бульбіны пры гэтай хваробе ня могуць належна разьвівацца і кепска перахоўваюцца. Персьцянёвая бактэрыёза нападае на сьцеблы бульбы і выклікае драбненьне і скручваньне лісьцяў. Пасьля гэтага хвароба дабіраецца і да бульбін, у выніку чаго зьяўляюцца ў іх рудаватыя пасы. Пры мокрай бульбяной гнілі ўнутраная частка бульбы ператвараецца ў мазьлявую *сьмярдзючую масу* жаўтаватага або белаватага колеру. Хваробу гэтую можна заўважыць пры выбіраньні бульбы і найболей шкоды прыносіць яна пры перахоўваньні апошняй. Спосабы барацьбы з гэтага роду хваробамі наступныя: 1) аддзяляць хворую бульбу ад здаровае, 2) не садзіць бульбы на вільготных месцах і 3) для пасадкі ўжываць здаровы насенны матэр'ял.

*З. К.*

## Калі прыступаць да касьбы.

Надыходзіць пара сенакосаў. нашыя Гаспадары добра ведаюць цану сена, высушанае ў добрую пагоду, але напэўна ня ўсе добра знаюць, калі трава найболей надаецца да касьбы. Звычайна нашыя сяляне з касьбою позьняцца, дацягваючы яе да самага жніва.

Да касьбы мусім прыступаць тады, калі з травы можам атрымаць сена, як найболей і найлепшай якасьці. Найбольшую колькасьць травы можна атрымаць, калі скасіць яе ў часе цьвіценьня і ў гэты час яна мае добрую кармавую якасьць. Даўжэй трымаць траву ня скошанай ніколі ня можна, бо на колькасьці сена мала прыбудзе, але на якасьці яго страціцца шмат (сена стане меней смачным, будзе адзначацца кепскай страўнасьцю і пажыўнасьцю). Досьледамі ўстаноўлена, што чым даўжэй трава стаіць на пні пасьля таго, як зацьвіла, тым што раз меней становіцца ў ёй бялка, які ёсьць найпажыўнейшым складнікам у корме. Апрача таго ў старэючай траве, павялічваецца ўсьцяж колькасьць малапажыўнай цэлюлёзы (дрэўніны).

Старая трава дзервянее, у ёй адкладаецца больш крэменю, які перашкаджае траўленьню; колькасьць-жа іншых соляў (як фосфар, паташ, вапна), якія маюць вялікае значэньне, асабліва для жывёлы—маладняка, значна зьменшаецца. У канюшыны такое зьменшэньне мінэральных соляў, пачынаючы ад цьвіценьня і канчаючы дасьпяваньнем, выносіць каля 3%.

Вось-жа ўсе вышэй прыведзеныя даныя гавораць за тое, што з касьбою ня можна пазьніцца. Чырвоную канюшыну трэба касіць, як зьявіцца палавіна кветак; люцерну і інкарнатку—калі пакажуцца першыя кветкі; эспарцэту, віку і сэрадэлю—ў поўным цьвеце.

На мурожных сенажацях трэба прыступаць да касьбы, калі большая частка траваў цьвіце; на балотных-жа сенажацях, дзе ра-

---

гэта ёй давалася, што маці яе паходзіла з гэтых-жа мясцовасьцяў і на панскае жыцьцё пры мужу ў местах выехала, як быццам толькі ў госьці, а назад у вёску вярнулася бяз ніякага цяжару на душы, ну проста якбы ў родную хату сваіх уласных бацькоў. Маці гэтая за чатыры гады пасьпела вытлумачыць дачцэ усё вясковае так, што туды ўжо дадаць нікому нічога не ўдалося-б, калі-б хто гэта зрабіць і захацеў.

—Старайся...працуй,—навучала Настульку маці,—я тут вырасла сярод гэтых людзей і ведаю, што яны шануюць, перш за ўсё, працавітасьць: трэба патрапіць і з сярпом на полі ўлетку ўпраўляцца, і кудзелю ўмець прасьці, і кросны каб слухалі цябе... А з навукі твае, дачушка, што? З навукі гэтае ўсё роўна хлеба не ясі. Ведаеш, што пасагу ад нас добрага ня можаш мець, а зараз могуць і сваты паказацца.

—Ды кіньце вы, гэткія гутаркі, мама,— адзінялася іншы раз Настулька, аднак-жа і старалася і працавала, як толькі вымагаў гэтага інтэрас невялічкае іхнае гаспадаркі.

Настульчын бацька быў чалавекам, як кажуць, недалёкім і ад ранейшае канцэлярышчыны, — на якой, бы той казаў, ён і зубы зьеў, — перайшоў надта лёгка на долю земляроба, выказваючы гэткі клопат і гэткую, хоць часта-густа й пустую, стараннасьць у працы, што суседзі, земляробы ўжо прывычныя змалку, няраз дзівіліся, гутарачы паміж сабою:

—А бач, браце, як Пятрусь завінаецца, нават і не пазнаеш, што ня гэткім ён некалі быў, як мы ўсе.

— Ды ён і дасюль ня зусім раўня табе,—разважаў другі сусед,—загавары толькі з ім.

І праўда, што гаварыць з Настульчыным бацькам ня лёгка было звычайным сялянам: ён напамяць ведаў і здавалася, што ўжо да сьмерці не запомніць, »*Табель о рангах*«, бо сам даслужыўся да *калежскага сэкрэтаря* ў царскія часы і, каб не рэвалюцыя, дык невядома да чаго дастукаўся-б за свой век.

Гэтак думаў ён сам, гэтак здавалася і суседзям яго, якія з дзіцячых гадоў жылі ў Буркаўцы аж да вайны і паміраць зьбіраліся ў ёй. А гэткіх у вёсцы была большасьць; меншую часьць складалі тыя, хто гэтак сама, як і Пятрусь, Настульчын бацька, служылі некалі па местах на розных службах.

Пятрусь зусім быў згодны з паглядамі жонкі на выхаваньне свае дачкі, а іншы раз дык ішоў нават і яшчэ далей. Напрыклад, аднаго разу, ўбачыўшы што Настулька чытае нейкую кніжку, ён бацькаўскім тонам зрабіў ёй моцную ўвагу:

— *Что ты, Настя, занимаешься книгой, разве работы не имееш?*

А калі паглядзеў, што дачка толькі падняла галаву і, глянуўшы, на яго, лёгка усьмяхнулася, ён падыйшоў да яе і, перакануўшыся, што кніжка беларуская, злосна прабурчэў:

— *И охота-же читать падобную ерунду...*

— Гэта зусім не-*ерунда*,— адказала Настулька, вы-ж гэтага нат' і ня чыталі...

— *Станv я пад старость язык свой перековучивать*, — адчыканіў Пятрусь, зусім запомніўшы пра тое, што якраз ужо і пера-круціў сябе на маскаля за доўгую царскую службу.

Аднак-жа, праўду трэба сказаць, большых канфліктаў паміж змаскалелым бацькаю пачынаўшаю беларусчыцца дачкою, не здаралася. Кніжкі яна любіла чытаць, бо да гэтага прывыкла ў месьце за свае школьныя гады. Вучылася яна парасейску, шмат чаго парасейску прачытала, а беларуская літэратура была для дзяўчыны навіною, куды цікавейшаю за ўсе сялянскія работы, якія гэтак хутка рабіць Настулька навучылася.

Яна чула ад маці аб сватох няраз і вось цяпер меркавала, што магло-б быць, каб яна пайшла замуж за гэтага «лепшага з гаспадароў», які сватаца прыехаў, а ўжо даўно быў ахрышчаны вясковымі кумачкамі гэткім празваньнем і лічыўся вельмі пажаданым жаніхом для шмат якіх вясковых дзяўчат. Настульцы ішоў дваццаць першы год і, паводле мясцовага звычаю, яна праз гадоў пару трапляла ўжо ў старыя дзеўкі. Але што ёй з гэткага мужа? Ці-ж дзеля гэткага рэзультату яна некалі палажыла ўсю сваю дзіцячую энэргію на гімназіяльны курс, на чытаньне твораў вялікіх літэратараў сьвету? Пэўна-ж не! Як прыемна ёй было спомніць службу ў аднэй з рэвалюцыйных інстытуцыяў, дзе праца яе пачалася з машыніткі, а цераз год яна ўжо кіравала цэлым аддзелам і меля падуладных сабе працаўнікоў!

— Пацягнула-ж тады яе маці з граніцу на родныя попелішчы, ў Заходнюю Беларусь, на зруйнованую гаспадарку, дзе прышлося нарыхтоўваць усё спачатку, пачынаючы ад простага кала ў плоце! Няўжо-ж лёс так складаецца, як сабе хоча, і ніхто віднейшы, так сама, як яна, асьвечаны, не працягне ёй рукі, і не адшые гэтага моцна цёмнага земляроба.

(Працяг будзе).

*Краўцоў Макар.*

